Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 32 (83). Вільня, Серада 6 Красавіка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Дзьве гутаркі і адзін вывад.

Ад самага пачатку істнаваньня новапаўстаўшай Польшчы сярод яе адказных палітыкаў узьніклі думкі аб яе межах 1772 году.

У імя гэтых лятуценьняў, пачалася будавацца польская дзяржава, г. з.—разам з Польшчай паўстаў і яе мілітарызм. Але-ж запраўднасьць выказала, што лятуценьні яе так і асталіся толькі лятуценьнямі з прычыны тагочасных абставінаў; у 1921 годзе Польшча згадзілася прыняць сучасныя межы. Далей пашло жыцьцё неспрыяючае Польшчы, так, што замест таго, каб пускацца на далейшае ажыцьцяўленьне сваіх лятуценьняў, прыходзіцца шукаць спасобаў, каб замацаваць істнуючыя ўжо абставіны і лад.

Замацаваць гэтакае палажэньне рэчаў, якое ёсьць на відовішчы бягучых дзён, па славах высокіх кіраўнікоў польскае дзяржавы, трэба супакойнаю, мірнаю працаю, абаснованую на паразуменьні з суседзямі і ўстанаўленьні між імі добрых адносінаў.

І вось, Польшча ідучы гэтакім шляхам распачала перагаворы з Масквою. Нібы для пацьвярджэньня сваіх мірных імкненьняў, польскі міністар замежных справаў п. Залескі, ужо сказаў наступнае: „Польшча вядзе стойкую мірную палітыку і ў кожнай спробе ўмацаваньня супакою ў Эўропе хоча чынна супрацоўнічаць. Паважны ўдзел Польшчы ў Радзе Лігі Народаў накладае на нас спэцыяльны абавязак у справе пацыфікацыі (супакоіваньня) усходу Эўропы. Дзеля таго, што Саюз Сап. Радавых Рэспублікаў не належыць да Лігі Народаў, дык дагавор аб непападаньні для Радавай дзяржавы ёсьць вонкаваю формаю, якою выяўляе яна свае адносіны да сваіх суседзяў. Бяручы гэта пад увагу, Польшча гатова ахвотна, у форме дагавору, даць доказы сваіх шчыра мірных намераў і настрояў адносна ССРР (Радавай Расеі)“.

Падаючы гэтакую прамову міністра, польская газэта „Работнік“ ужо ад сябе дадае, што вышэй паданая заява п. міністра А. Залескага, павінна палажыць канец усім плёткам, што быццам Польшча ў адносінах да ССРР займае напастлівае становішча, або хоць-бы непрыязнае.

Чуючы гэтакую прамову адказнага кіраўніка польскай заграпічнай палітыкі можна было-б прыняць яе за чыстую манэту, калі-б ня было прычынаў адкінуць усю веру ў шчырасьць гэтае заявы.

Нядаўна адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне імянінаў маршалка Пілсудскага, дык ў часьць гэтага на акадэміі ў Вільні прафэсар М. Зьдзехоўскі, (быўшы рэктар Віленскага Унівэрсытэту) сказаў: „Аддана Саветам на спажыву, знішчана болей за мільён польскага насяленьня, аддана ім вялікія абшары, якія перад вайною былі ў нашых руках: Падольле, Валынь амаль-што цалком, вялізарная частка Менскай зямлі“...

Дык вось гэтая другая прамова гавора нешта ўжо зусім іншае. Замест спакойнага мірнага настрою чутна ваяўнічая нотка.

Цяпер вывады. Міністар Залескі гаварыў, як кіраўнік адказны, перадусім, перад п. прэм'ерам, г. з. перад марш. Пілсудскім, а праф. М. Зьдзехоўскі, прыхільнік пана марш. Пілсудскага, гаварыў як прадстаўнік польскага грамадзянства, якое падтрымлівае ўрад Пілсудскага, дык знача, што міністар, які зьяўляецца прадстаўнікам ураду гаварыў ня шчыра, бо яго заява ня годзіцца з грамадскаю думкаю. Ясна, што пры гэтакіх абставінах, калі-б нават словы п. міністра былі і шчырымі, дык іх нельга палічыць гэтакімі, а бяручы пад увагу, што гэтая заява выдатнага грамадзяніна, зробленая ў урачыстым часе, ня была запярэчана, дык і прыходзіцца сумлевацца ў шчырасьці словаў п. міністра. Разумецца, калі гэтак, дык мілітарызм Польшчы жыве ды пажывае!...

Калі возьмем Саветы, дык і там пабачым тое самае. Яны імкнуцца да займаньманьня чужых тэрыторыяў у імя інтэрнацыянальных мэтаў.

Мэты як аднаго так і другога суседа зьяўляюцца скіраванымі проці Беларускага Народу: калі адзін хоча палянізаваць нас, дык другі хоча нас інтэрнацыяналізаваць.

Аднак ня трэба забывацца, што цяпер мала заваяваць край; трэба яго прыхіліць на свой бок, бо іначай шырокія межы будуць дэструкцыйным дзейнікам і ня толькі не прынясуць ніякае карысьці для заваяваццеляў, але яшчэ могуць шмат ім пашкодзіць. У даным выпадку аб гэтым прыхіленьні ня можа быць ніякае гутаркі, бо заінтэрасаваны Беларускі Народ выразна імкнецца толькі да самастойнага жыцьця.

## Сям'я і школа.

У наш культурны век узгаданьне дзіцяці вядзецца двумя дзейнікамі: сям'ёю і школаю.

Які з іх мае вялікшы ўплыў на дзіця?

Ясна, што вялікшы ўплыў на дзіця—мае сям'я, а чаму? дык на гэта адкажу наступным.

Сям'я мае вялікшы ўплыў на дзіця таму, што яно жыве неразлучна з сям'ею са свайго першага моманту зьяўленьня ў жыцьцё, дык разумеецца ўсё тое што ёсьць у сям'і, у людзей, якія яго акружаюць, маладое дзіцячае пачуцьце пераймае і на падставе гэтага складаецца пэўная псыхолёгія дзіцяці, якая сходзіцца з псыхалёгіяй сям'і. Акрамя пачуцьця дзіця атрымлівае ад сям'і і спосаб выяўленьня яго. Спосабам выяўленьня пачуцьця ёсьць—мова. Усё тое, што дзіця атрымлівае ад сям'і, гэтак моцна ўжываецца ў арганізм, што на працягу ўсяго істнаваньня чалавек ніяк ня можа выкінуць са свайго пачуцьця любоў і прыхільнасьць да ўсяго таго, што зьяўляецца для яго родным, што атрымаў ён у дзіцячыя годы ад сям'і. Ніякія варункі жыцьця не заглушаць аканчальна таго, што прышчапілася змалку.

Дык вось знача: сям'я мае вялікі ўплыў на дзіцячае ўзгадаваньне, ну а школа?

У гэтакім выпадку школа мае сваім заданьнем быць далейшым, сыстэматычным разьвіцьцем дзіцячага душэўнага складу, пачаткі якога атрымала дзіця дома.

Якія-ж вынікі будуць ад гэтага? Ясна, калі ўзгадаваньне дзіцяці пойдзе шляхам ужо адзначаным, распачатым дома, дык у гэтакім выпадку ўзгадаваньне дзіцяці дасьць вялікую карысьць. Яно пашырыць кругазор дзіцячага мышленьня і разаўе веду за межы таго магчымага, якое далося-б дзіцяці калі-б яно не атрымала ніякага школьнага ўзгадаваньня і навучаньня. Дык знача, у гэтакім выпадку, школа можа даць пазытыўныя і пажаданыя вынікі.

У другім-жа выпадку дзіцячага школьнага ўзгадаваньня, якое пойдзе на перакор тым пачаткам узгадаваньня, якія атрымала дзіця дома, ужо будуць шкодныя і надта благія вынікі ў гэтакім выпадку станецца наадварот. Замест таго, каб даць дзіцяці асьвету, яно (ўзгадаваньне) дасьць баламуцтва, бо прышчэпы таго, чаго няма ў зачатку дзіцячае псыхалёгіі, прыняцца ня могуць, аднака-ж сама апэрацыя прышчэпу пакалечыць тое добрае дзіцячае пачуцьцё, якое атрымана ім дома.

Сродкам узгадаваньня ці навучаньня дзіцяці, як ведама, ёсьць мова. А з гэтага ўжо вынікае, што ўсякае школьнае навучаньне павінна адбывацца ў роднай мове дзіцяці, з ушанаваньнем тых традыцыяў і звычаяў, якія істнуюць у сям'і, з якой вырастае.

Усе вышэй паданыя вывады сцьвердзіць можна фактычнымі даннымі з сучаснага польскага школьніцтва на Беларусі. Польская школа і беларускае дзіця гэта-ж дзьве супярэчнасьці, якіх прымірыць бяз поўнага ўхіленьня аднаго ад другога немагчыма. І праўда, беларускія дзеці, ходзячы ў школу ў працягу некалькіх гадоў нічога, акрамя літараў, навучыцца ня могуць. І ня дзіва. Возьмем гэтакі прыклад.

Калі пачую я словы: жыцьцё, хлеб камень, лісіца, сьнег. Ну і што? А вось што: кожнае гэтае слова будзіць ува мне адпаведнае зразуменьне гэтага слова і я зразу пачую яснае і поўнае яго значэньне.

А вось пачую я: лебэн, брод, штэін, фукс, шнээ. І хоць я разумею і гэтыя словы, але-ж таго цяпла, з якога я прыняў роднае слова ў мяне адносна да гэтых словаў нямаш. Гэта я, а таксама і кожны чалавек можа адчуць сам на сабе.

Дык добра, гэта можа быць тагды, калі чужое слова пачуўшы я зразумею, а як яно для мяне зусім не зразумелае, тагды што? Дык і ясна, што ніякага ня выкліча эфэкту. Гэтакае слова абсалютна нічога ня дасьць майму сьветапагляду.

Калі-ж ня гледзячы на тое, што я не разумею, пачнуць мне ўкладаць, дык у канцы-канцоў саб'юць мане з праўдзівага шляху і я стану на раздарожжы. Дык вось, у вышэй паданым, на мой пагляд, уся трагічнасьць польскага школьніцтва на нашых землях,

Я асабіста не баюся за тое, што беларускія дзеці апалячацца. Не, я з асабістых дасьледаў знаю, што акрамя літараў ніякае польскасьці,—калі не антыпольскасьці,—польская

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Памяці Бэтховэна.

Увесь культурны сьвет сьвяткуе 100 годзьдзе сьмерці вялікага кампазытара Немца Бетховэна.

На яго чэсьць паўсюдна ладзяцца ўрачыстасьці, лекцыі і канцэрты.

### Сытуацыя ў Кітаі.

Кантонцы ўжо зьяўляюцца панамі палажэньня ў Шанхаі і Нанкіне. Армія іх ідзе на поўнач у кірунку да Жоўтай ракі. Перадавыя кантонскія аддзелы дайшлі ўжо да месцовасьці Фэнг-Янг, якая находзіцца за 25 міль (ангельскіх) ад галоўнага пункту шангтунскага войска Пэнг-Пу і ад чугункавай лініі Тсен-Тсін-Пукоў. Партызанскія атрады кантонскай арміі падышлі ўжо да самага Пэнг-Пу.

Як падае бюро Рэйтэра, у Шын-Кінг адбылася антыамэрыканская дэмонстрацыя. Амэрыканскі консул і віцэ-консул схаваліся на караблі. Кітайцы парвалі амэрыканскі сьцяг, што вывешаны быў на консуляце.

Урады беспасярэдня зацікаўлэных выпадкамі ў Кітаі радзяцца паміж сабою аб далейшых супальных кроках.

Амэрыка гатуе войска, якое-бы магло ў кожным разе выступіць на абарону жыцьця і маемасьці амэрыканскіх грамадзян у Кітаі.

„Times" падае вестку з Пекіну, што сярод амэрыканскіх грамадзян ідзе падгатоўка на выезд дзеля таго, што прадбачыцца заняцьце Кантонцамі Пекіну.

Баяцца каб не сталася тое, што сталася ў Нанкіне. Там паўночна буржуазнае войска разграбіла гэтае места і абстраляла з арматаў. Дзеля гэтага жыхары Нанкіну многа ўцярпелі і дазналі крыўдаў, а ў тым рахунку і чужаземцы.

### Нямеччына.

У Нямеччыне ў часе паваеннага гаспадарчага крызысу ў некаторых мясцовасьцях і галінах працы быў прадоўжаны дзень працы. Апошнімі днямі ў Саксоніі, ў маталургічнай прамысловасьці ўводзіцца 8-гадзінны дзень працы. Прадоўжыць дзень працы не дазваляецца, а калі дзе якую працу неабходна трэба будзе выканаць, дык за гэта працадаўца плаціць будзе асобна.

Нямецкі пасол у Варшаве, які выехаў у Бэрлін, атрымаў там паўнамоцтвы і інструкцыі аб нямецка-польскіх перагаворах у справе гандлёвага дагавору, але-ж перш мусіць быць урэгулявана справа Немцаў у Польшчы.

### Чэхаславакія.

Уставадаўчая палата прыняла 5 урадавых вайсковых праектаў якімі касуецца права голасу пры выбарах тым асобам, якія служаць на вайсковай службе. Устанаўліваецца армія ў 150.000 чалавек на мірны час, а таксама уводзіцца вайсковае начуваньне грамадзян, якія не адбываюць вайсковае чыннае службы.

### Напад на Форда.

На амэрыканскага караля аўтамабіляў Форда быў зроблены напад. Напасьнікі дагналі аўтамабіль Форда і сваім аўтамабілем ззаду перакінулі яго з насыпу пад дарожны аткос. Форд атрымаў рану каля вока і на чашцы, і чуецца нездарова.

### Паўстаньне ў Мароку.

У Мароку, дзе супольнымі вайсковымі сіламі Францыі і Гішпаніі нядаўна было прыдушана слаўнае змаганьне мараканскага народу з чужынцамі, паняволіўшымі яго, час-ад-часу ізноў зьяўляюцца паўстанцы, а гэта сьведчыць, што ніякае чужацкая сіла ня мае ўлады затушыць агонь пачуцьця чалавечае годнасьці і зламаць жаданьня вольнасьці і незалежнасьці.

Нядаўна ізноў паўстала племя Ктама і хоць яно ня можа ўстаяць проці рэгулярнае гішпанскае арміі, але-ж яскрава паказвае, што незалежнасьць, як Ідэал сьвеціць мараканскаму народу і падбуджае яго да чыну, барацьбы і змаганьня.

Афіцыяльны гішпанскі камунікат падае вестку, што зьявілася група паўстанцаў каля места Сэн-Гая-Рухі.

Гішпанскае войска энэргічна ўзялася прыдушыць гэтае паўстаньне.

У ваколіцах Бэні Эддэр гішпанская паліцыя вядзе шырокую акцыю, пры гэтым паліцэйскія аддзелы панясьлі вялікія страты. Каля Джэбель Гаддід уваружаныя паўстанцы напалі на гішпанскі паліцэйскі пастарунак і ўвесь яго склад у лічбе 15 чалавек перабілі.

# Да нас пішуць.

### Парадкі на нашай пошце.

У м. Сельцу, Пружанскага павету існуе паштовы аддзел. Цяпер, за часоў польскае ўлады, заведзеныя новыя парадкі. У кожнай вёсцы выбіраецца ці назначаецца чалавек, які са спэцыяльнай для гэтага паштовай кнігай ходзіць два разы ў тыдзень на пошту ў м. Селец і атрымлівае ўсю карэспондэнцыю для цэлае вёскі; пасьля ўжо разносіць па прыналежнасьці. Але бяда ў тым, што калі хто бываець на пошце паміма афіцыяльнага разношчыка, дык таму ня аддаюць ужо карэспондэнцыяў і газэт адрэсаваных нават на яго імя. Гэтыя „парадкі" вельмі шкодныя, бо часта сьпешныя лісты прыходзяць апазьніўшыся, а газэты, — прыйдзеш і бачыш на пошце, што ёсьць, але-ж атрымаеш яшчэ за дзень два, ня гледзячы на доказ дакумэнтальны асабістасьці адрасата, і на тое што паштовы ўрадовец у той час нічога да работы ня мае.

Полымя.

### Высьцерагайцеся ашуканцаў.

(Іўе, Лідзкага пав).

Патэнтаваньне ўсякай новай выдумкі ў галіне прамысловасьці прынята цяпер блізу ў ва ўсіх Эўрапэйскіх культурных дзяржавах. Польшча, якая мае адвагу залічаць сябе да культурнай стараны, завяла і ў сябе сыстэму патэнтаваньня, а на'т, здаецца, перавысіла ўсю Эўропу ў гэтым кірунку. Я ня думаю, каб дзе небудзь у Эўропе патэнтавалася... шарлатанства, жулікоўства, а на'т можна сказаць проста — зладзейства. Доказам гэтага служыць хмары гэтакіх аматараў чужой уласнасьці, з вялікім, выпрабленым гадамі ў спэцыяльных закладах „навуковых", спрытам у пальцах. Такі ашуканец прыяжджае ў мястэчка, расстаўляе свой варштат працы на рынку, дастае з кішаньні прамысловы патэнт і пачынае няшчасных сялян заклікаць папрабаваць шчасьця заіграць з ім у карты, косткі, напарсткі і іншыя штукі... А на кірмашы, як ведама, шмат народу, між якім многа дурняў, якія трацяць няраз апошнюю залатоўку. Паліцыя-ж глядзіць на гэтыя штукі і ня відзіць ці ня хоча відзець, тым больш, што гэтыя „прамыслоўцы" маюць дазволы ад тутэйшых уладаў і пасьля ўсякага выйгрыша крычаць на ўвесь рынак: „Górrrą Pollska!" Як-жа такіх патрыятычных людзей ганяць ці рабіць ім якую прыкрасьць у іх патэнтаванай прамысловасьці. Да вас, сяляне, зьвяртаюся з гарачым заклікам: здалёк абмінаць гэтых жулікаў, і недапускаць да іх сваіх суседзяў; сорам і ганьба таму чалавеку, які замест пусьціць сваю цяжка запрацаваную залатоўку, на патрэбную рэч, на газэтку ці інш., аддае яе жуліку!

Рыбацкі.

### Наш солтыс гандлюе.

(З Войстмшчыны).

Солтыс углянскай грамады, Вайстомскай вол. Вялейскага пав. І. Ш. дык вельмі ўжо ласы на грошы. Мала яму 10 зл. у месяц пэнсыі ды 10 проц. з пабіраных падатковых штрафаў і эгзэкуцыі, а такжа 25 проц. ад выдаваных і пасьведчаньняў „пахадзэньня" на скаціну, — дык яшчэ ўзяўся гандляваць сьвіньнямі ды каровамі, грашыма якія зьбірае з нас за падаткі, затрымліваючы іх у сябе.

Уважай пане солтыс, каб не прагандляваўся!

*Дзісяты.*

### На што гэта падобна?

(З Пружаншчыны).

Не жадаючы больш калечыць сваіх дзетак у польскай школе, і зразумеўшы, што ніхто ім нічога ня дасьць, калі самы ня паруняцца аб гэтым, сяляне вёскі Сашыцы, Саледкае гміны напісалі дэкларацыі з заявай адчыніць у іх вёсцы беларускую школу і ў пачатку сьнежня л. г. праз свайго паўнамоцніка зложылі іх школьнаму інспэктару ў м. Пружане. Усіх жадаючых адчыніць родную школу дэклярантаў было 42, па 60 дзяцей. Зрабіўшы ўсё што вымагалася ад іх, споўніўшы ўсе фармальнасьці, сяляне ўжо чакалі на другую зіму, калі павінна былі зьдзейсьненьня іх жаданьні. Болей практычныя чакалі перашкодаў з боку ўлады, і не памыліліся ў гэтым. У лютым г. г. да кожнага дэкляранта на беларускую школу зьявілася вучыцелька польскае школы ў гэтай-жа вёсцы Здановіч і пачала ўгаварваць сялян адказацца ад беларускае школы і падпісаць дэкларацыі на польскую школу. А дзеля таго, каб мець які ўплыў на сялян нежадаючых польскае школы, дык у кожнай хаці вучыцелька гаварыла, што: толькі вы ўжо засталіся ўся-ж вёска падпісалася на польскую школу, хто адмовіцца падпісаць дэкларацыю, дык таго аднога пагоняць да Пружаны". — Але-ж я зусім не хачу падпісваць вашае новае дэкларацыі — адказвае адзін селянін — „што раз напісаў, дык ужо перапраўляці ня буду".

— А калі гэтак, дык я напішу школьнаму інспэктару—адказвае вучыцелька—што ты працўнік польскае ўлады!

Дык вось якіх спасобаў ужываюць Палякі патапляючы жаданьне беларускага селяніна роднай школы.

*Полымя.*

### З жыцьця Сіняўскай воласьці.

Сіняўка займае паўднёвую, лесістую частку Несвіскага павету. Гміна досьць вялікая, люднасьць раздзяляецца на праваслаўных і каталікоў.

Напады, якія былі ў Несвіскім павеце, здараліся ў гэтай воласьці. Вядома, што ўся адказнасьць за гэта спадала на беларускія вёскі.

Праўда, частка бандытаў, вэрбавалася з сялян Сіняўскай воласьці, але гэта былі ахвяры цяжкага, ненармальнага, сялянскага жыцьця. Нягодныя абставіны жыцьця, стварылі тое, што сяляне лёгка падаваліся рознай дэмагогіі. Быў тут і вядомы правакатар Махай, арганізуючы камітэты ППС і сеючы бальшавіцкія лёзунгі і абяцанкі, працаваў тутака і наш „Беларус", спэлюншчык Паўлюкевіч, які мае сваіх платных агентаў у в. Сіняўка. Гэта вёска тым цікаўная, што яна служыць і вам і нам. Тут знайдзеце і гурток Паўлюкевічай рады, гурток „Прасьветы", Гурток Белар. Інст. Гаспад. і Культуры, гурток Б. С. Р. Грамады і розныя польскія „kółka" і інш. і ўва ўсіх гэтых гуртках адны і тыя-ж асобы. Беларуская сьведамасьць, за выняткам трох-чатырох вёсак, пашырана слаба. Што-ж датычыцца самага мястэчка Сіняўкі, дык яно нічым асаблівым не выдзеляецца, звычайнае жыдоўскае мястэчка, было нейкі час „рэзыдэнцыя" Паўлюкевіча, штабам яго нікчэмнага „Беспартыйнага Сялянскага Саюзу" у часе выбараў у Варшаўскі Сойм.

Мястэчка Сіняўка, павінна быць для Паўлюкевіча, блізкім і дарогім, бо нядзе інш, як у Сіняўцы ён распачаў сваю правакатарскую кар'еру, выступаючы ў кірмашовыя дні перад натоўпамі сялян у ролі абаронца іх лятуценьняў, жаданьняў, лаючы страшэнным вобразам польскі ўрад, адміністрацыю, паліцыю і г. д. Але цяпер сяляне ўжо пазнаюць воўка у авечыннай скуры.

*Валацуга.*

# НАШАЯ ПОШТА.

**Гардзею А., Бураку Ф., Коўчанку І., Точцы І., Дзіваку С., Пацкевічу В.:** Праграму і інструкцыю і заявы паслалі.

**Рэдакцыі Навуковага Багасловія:** 7, 8, 19 і 27 нум. „Сял. Нівы" ня можам пасланць, бо канфіскаваны.

**А. Бярозка:** Вашыя вершы заслабыя. Пішыце свае думкі прозай.

**М. Засіму:** Заяву аб прысланьні статуту Інстытуту перадалі ў Інстытут.

**Полымя:** „За што арыштоўваюць"—атрымалі.

**Янка Бедны:** „Прыхільнікі паноў"—атрымалі, памагчымасьці зьмесьцім.

**Іваноўскаму:** Карэспандэнцыю атрымалі, памагчымасьці зьмесьцім.

**Кулешу, Шпігуну, Серадзе П.:** Пробны нумар паслалі.

**Ф. Бураку, Шынайку, Кісялю Я., Засіму, Рацiку, Точцы І. Кашубе Я.:** Газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Кірэя Паўла—4 зл.; Самойліка П.—3 зл.; Міхася Горына, Івана Дырэйкі, Дзякона Аляксандра—па 2 зл.; Мікіта Данілаў—1 зл.



**Прысылайце грошы на падпіску.**

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.